


# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamleńni**



Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*



№ 1(683)
Студзень 2023 г.





# Прэзэнтацыя альманаха “Беларус” за 2022 г.

У суботу, 26 лістапада 2022 г., у грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбылася прэзэнтацыя альманаху “Беларус” за 2022 год. Зборнік літаратурных працаў, які выходзіць ужо цягам 15 год у Нью-Ёрку, стаў творчай пляцоўкай аўтараў, што пішуць па-беларуску ў замежжы. Рэдактарам выданьня зьяўляецца сп. Марат Клакоцкі, што ад самага пачатку быў адказны за ўсе бакі падрыхтоўкі выданьня, і цяпер прадставіў грамадзкасьці ўжо шаснаццаты выпуск.

Напачатку імпрэзы яе вядучы і адзін зь арганізатараў старшыня Згуртаваньня “Пагоня” і аўтар альманаху сп. Віталь Зайка даў кароткую інфармацыю пра альманах і падкрэсьліў, што гэта, бадай, адзінае выданьне, якое публікуе творы беларускіх пісьменьнікаў замежжа. Затым ён перадаў слова сп. Марату Клакоцкаму, і ён прапанаваў прысутным адразу задавалі пытаньні па цікавячых тэмах, каб не было паўтарэньня. Адказваючы на пытаньні, выступоўца сказаў, што “Беларус” высылаецца ў многія краіны сьвету, але дзеля таго, што зь Беларусьцю паштовыя зносіны цяпер перарваныя, дык давядзецца перасылаць аказіяй, вакольнымі шляхамі. Альманах атрымліваюць асноўныя славістычныя цэнтры ЗША і сьвету. Сп. Пазьняк прапанаваў высылаць таксама ў беларускія асяродкі Польшчы, як Беларускі Дом і Маладзёвы цэнтар, бо ў Польшчы знаходзіцца цяпер ці не найвялікшая частка беларускай дыяспары. Наконт аўтараў прамоўца адказаў, што цяпер ужо аўтары зьвяртаюцца ў рэдакцыю, і ён друкуе амаль усіх, хіба за малым выключэньнем твораў зусім непрыдатных. Зразумела, што ўзровень твораў розны, але калі мэтай лічыць стымуляваньне беларускамоўнай творчасьці ў замежжы, дык яна дасягаецца.

Затым сп. Віталь Зайка даў агляд пасобных твораў і аўтараў альманаху.

Наступным выступіў аўтар альманаху сп. Віктар Едзіновіч. Ён публікуе свае творы ў альманаху ўжо другі раз і сказаў, што ёсьць пляны на наступныя выпускі. Аўтар коратка распавёў пра сваю творчасьць, сказаўшы, што “дадае белетрыстыкі ў сухія факты з гісторыі Другой сусьветнай вайны” і згадаў свой аповед з жыцьця перадгістарычных людзей.

Сп. Віталь Зайка, ужо ў функцыі аўтара, а не вядучага, завёў гутарку пра міласэрнасьць, спагаду, прымірэньне, пра ўвагу да людзей у Беларусі, што пакуль не ўспрынялі беларускае і зьяўляюцца часткаю “рускага міру”.

Потым слова перайшло да Тацяны Заміроўскай. Сёлета яна апублікавала свой першы твор у альманаху, але нагул Тацяна ўжо дасьведчаная пісьменьніца і літаратарка, хоць пісала яна па-расейску. Тацяна – аўтар некалькіх зборнікаў апавяданьняў і рамана. Яна пачала выступ, адзначыўшы, што ў яе была “татальная немата” дзеля вайны, якую Расея распачала ва Ўкраіне, і падумала напісаць твор па-беларуску. Узялася за працу – і тады немата скончылася. На пытаньне, што яе натхняе, Тацяна адказала: “Я пачала пісаць у журналістыцы, як музычная журналістыка. Як пісьменьніца адпачатку друкавалася па-расейску, маю тры зборнікі апавяданьняў і раман. У нашай нацыянальнай ідэі павінна быць месца памяці і павазе да продкаў. Мова – гэта код, які застанецца, калі нашыя галасы зьнікнуць, калі мы перастанем існаваць. Беларускасьць – гэта такі архіў, тэкст і сьведчаньне, па якім адновіцца ўсё нашае існаваньне.

Наступны прамоўцам-аўтарам альманаху быў сп. Зянон Пазьняк. Выступ ён пачаў згадкаю пра Дзень Героя 27 лістапада і Слуцкі Збройны Чын, коратка спыніўшыся на ходзе драматычных падзеяў таго часу. Затым ён распавёў пра свае драматургічныя творы з новага нумару. Прамоўца спыніўся на сваёй літаратурнай творчасьці, сказаў што піша прозу і вершы, найбольш падабаюцца трохрадковыя. Цяпер вось ўзяўся за біблійныя сюжэты, хоць яны цікавілі заўсёды.

Затым выступіла сп-ня Галіна Пазьняк. Яна параўнала факты з гэбрайскай гісторыі ды нацыянальнага лёсу зь беларускімі. Нядаўна яна прагледзела фільм “Піяніст” і пазайздросьціла гэбраям, якія так цэняць сваіх людзей ды іхныя таленты. Сп-ня Пазьняк сказала, што брала інтэрвію ў выбітных беларусаў Гэніка Лойкі, Аляксандра Хомчанкі, сустракалася зь вядомымі грамадзкімі дзеячамі Міхасём Навумовічам з Парыжу, і Лёляй Міхалюк з Англіі. “Гэта людзі, якімі мы мусім цікавіцца і ганарыцца. Уражваюць адданасьцю справе і ахвярнасьцю хлопцы, што цяпер падтрымліваюць каліноўцаў – Андрусь Дандукоў, Віктар Дані-

*заканчэньне на бачыне 2*

## Прэзэнтацыя...

*заканчэньне з бачыны 1*

лаў, Валер Мінец. І каб ведаць, якія ў нас цудоўныя людзі – варта пачытаць мае інтэрвію зь імі".

Потым са сваімі заўвагамі выступілі сп-ня Ганна Шарко і сп. Зьміцер Левіт. Сп-ня Натальля Федарэнка казала, што апавешчаньне й інфармацыі пра прэзэнтацыю маглі б быць шырэйшымі.

Пасьля афіцыйнай часткі перайшлі да нефармальнай. Прысутныя маглі набыць асобнікі "Беларуса", як новыя, так і за папярэднія гады, узяць аўтографы ў прысутных на імпрэзе аўтараў і пагутарыць зь імі. Таксама можна было падтрымаць змаганьне Ўкраіны супраць расейскай агрэсіі, набыўшы вырабы, што прадаваліся ў садку ля Сабора, і дапамагчы каліноўцам, ахвяраваўшы грошы на баявы дрон.

**Віталь ЗАЙКА**




# Адзначэньне 102-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну

4 сьнежня 2022 г. у грамадзкай залі Сабору К. Тураўскага, адзначылі 102-я ўгодкаў Слуцкага Збройнага Чыну і ўшанавалі памяць змагароўслуччакоў. Напачатку імпрэзы прысутныя ўшанавалі хвілінай цішы памяць выдатнага дзеча беларускай грамады ў ЗША сп. Вітаўта Кіпеля, які адыйшоў у вечнасьць напярэдадні. Вядучая, сп-ня Натальля Федарэнка, прывітала прысутных і адзначыла важнасьць ушанаваньня геройскага чыну і памяці случчакоў.

Сп. Міхал Чаропка выступіў з дакладам пра Слуцкі Збройны Чын, які быў самым масавым узброеным выступленьнем супраць бальшавізму ў Беларусі. Ён падкрэсьліў, што гэта была фактычна спроба ўзброенай абароны незалежнасьці Беларусі ў лістападзе і сьнежні 1920 году.

У сваім выступе кіраўнік руху "Вольная Беларусь" сп. Зянон Пазьняк закрануў лёсы кіраўнікоў БНР і Слуцкага Збройнага Чыну і нагадаў пра важнасьць захаваньня памяці пра случчакоў. Ён адзначыў, што былы сьвятар БАПЦ Хведар Данілюк, чый партрэт знаходзіцца ў памешканьні Сабору, быў удзельнікам Чыну ў ранзе паручніка. Далей сп. Пазьняк спыніўся на дзейнасьці нацыянальнага вызвольнага руху "Вольная Беларусь", на задачах, якія рух ставіць перад сабой. Найпершая – падтрымка змаганьня Ўкраіны, бо калі стане вольнай Украіна, будзе вольнай і Беларусь. Сп. Пазьняк таксама паінфармаваў, што для палка Каліноўскага рухам "Вольная Беларусь" быў набыты мікрааўтобус і цяпер ідзе збор сродкаў на баявы дрон.

Затым сп. Чаропка прадэманстраваў урывак з фільму па матывах аповесьці Васіля Быкава "На Чорных Лядах", фактычна пра паразу Збройнага Чыну, дзе група вавяроў была аточаныя чырвонаармейцамі. Сп. Пазьняк пасьля выступіў, каб сказаць, што "гэта такая манэра В. Быкава, экзыстэнцыялізм, ён стаў ахвярай сваёй творчасьці, фільм задужа пэсымістычны, але насамрэч было ня так".

Затым выступіў старшыня БАЗ "Пагоня" сп. Віталь Зайка. Ён павіншаваў прысутных з ўгодкамі і выказаў журбу дзеля ўчора спачыўшага сп. Вітаўта Кіпеля і сказаў, што самае галоўнае, пакінутае нам папярэднікамі, – памяць, веды пра тых, што ішлі перад намі. "І мы не самотныя, бо ведаем, што і да нас жылі й змагаліся людзі, якім была дарагая Беларусь, і яны былі гатовыя аддаць свае жыцьці за яе, і тым людзям было значна цяжэй і складаней, чым нам. Будзем помніць пра змагароў-случчакоў, будзем помніць пра людзей з генэрацыі Вітаўта Кіпеля, з паваеннай іміграцыі – бо іхная справа цяпер перададзеная нам."



Сп-ня Федарэнка прачытала зварот Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы.

З успамінам пра а. Хведара Данілюка і паэта Алеся Змагара (Яцэвіча), удзельнікаў Слуцкага Збройнага Чыну, якія пасьля вайны жылі ў Амэрыцы, выступіў сп. Расьціслаў Гарошка.

Пасьля афіцыяльнай часткі імпрэзы яе ўдзельнікі мелі нагоду калегавацца з сябрамі і знаёмымі пры пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

# Вітаўт КІПЕЛЬ
## (30.05.1927 – 03.12.2022)



3 сьнежня 2022 году адыйшоў у вечнасьць сп. Вітаўт Кіпель, выдатны навуковец, грамадзкі дзеяч, дасьледчык гісторыі беларускай эміграцыі, бібліёграф і палымяны беларускі патрыёт.

Вітаўт Кіпель нарадзіўся 30 траўня 1927 году ў Менску ў сям'і Яўхіма Кіпеля і Марыі Зубкоўскай. Бацька Вітаўта быў мовазнаўцам, сябрам Тэрміналягічнай камісіі й актывістам беларусізацыі ў 1920-я гады. Маці скончыла Менскую гімназію, была ўдзельніцай хору Уладзімера Тэраўскага, пазьней скончыла літаратурна-лінгвістычнае аддзяленьне Менскага пэдінстытуту. У чэрвені 1930 году Яўхім Кіпель быў арыштаваны ГПУ і праходзіў па сфальсыфікаванай справе "Саюзу Вызваленьня Беларусі", што была выкарыстаная для зьнішчэньня беларускіх нацыянальных сілаў, так званых "нацдэмаў". Ён затым быў высланы ў Налінск у Расеі. Жонка з малым Вітаўтам перабралася да мужа.

У высылцы Кіпелі сябравалі з "нацдэмамі" Міколам Азбукінам, Антонам Адамовічам, Міколам Улашчыкам і паэтам Уладзімерам Жылкам. Кіпелі перахоўвалі апошні твор паэта "Тэстамэнт". Пасьля пераезду сям'і ў Арол Яўхім Кіпель быў зноў арыштаваны ў сьнежні 1935 году, і жонка засталася зноў адна з сынам і сваім паралізаваным бацькам Васілём Зубкоўскім. Пасьля пачатку вайны сям'і ўдалося зьяднацца і ў 1942 годзе пераехаць ў Менск. Да гэтага часу Вітаўт быў зарэгістраваны пад прозьвішчам маці. Бацька стаў працаваць у навуковым і мэтадычным аддзеле і быў рэдактарам газэты "Голас Вёскі". Маці працавала ў школьным інспэктараце, Вітаўт хадзіў у школу і дадаткова займаўся з Антонам Лёсікам, захапіўся беларусаведай, далучыўся да Саюзу Беларускай Моладзі (СБМ).

Бацька займаў пасады ў БЦР, і калі сталі набліжацца савецкія войскі, 1 ліпеня 1944 году сям'я эвакуявалася на Захад. Такім чынам, Вітаўт пражыў на Бацькаўшчыне ўсяго 8 год. Затым былі Познань, Бэрлін і Карлсбад. Канец вайны сустрэлі ў Гармішы, які апынуўся ў амэрыканскай зоне акупацыі. Вітаўт стаў вучыцца ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу, супрацоўнічаў у часапісе літгуртка гімназіі "У выраі". Падчас палітычных закалотаў сярод беларускіх уцекачоў Вітаўт імнуўся заставацца ўбаку ад спрэчак. Ён сур'ёзна заняўся скаўтынгам, скончыў курсы скаўцкіх кіраўнікоў і потым стаў кіраўніком (штандаровым) беларускіх скаўтаў у Міхельсдорфе. Істотнай часткай падрыхтоўкі скаўтаў было беларусаведнае навучаньне. Бацькі ў гэты час былі ў Бакнангу, а пасьля, у 1949 годзе, перабраліся ў ЗША.

У 1948-1949 гадах Вітаўт вучыўся на мэдычным факультэце Цюбінгенскага ўнівэрсытэту (Француская зона), а ў 1949-1953 гадах на геалягічным факультэце Лювэнскага ўнівэрсытэту ў Бэльгіі. В. Кіпель быў актыўны ў студэнцкім згуртаваньні і ў Саюзе Беларусаў Бэльгіі, быў заступнікам старшыні гэтай арганізацыі, праводзіў культурную і асьветніцкую працу, рыхтаваў даклады, канцэрты, заняткі беларусаведы.

У 1953 годзе атрымаў ступень магістра, а ў 1955 годзе абараніў доктарскую дысэртацыю па мінэралёгіі і тады ж выехаў у ЗША, дзе ў 1956 годзе ажаніўся з Зорай Савёнак, што стала ягонай калегай і сябрам у далейшай навуковай і грамадзкай дзейнасьці.

Жылі перш у Пасэйку, пасьля ў Балтыморы. Дзеля таго, што сталая праца ў галіне геалёгіі, прафэсіі Вітаўта, была адкрытая толькі для грамадзянаў ЗША, ён з Зораю абралі новую прафэсію – скончыў бібліятэчны факультэт і быў прыняты на працу ў навуковы аддзелеНью-Ёркскай Публічнай Бібліятэкі. Ён аддаў шмат часу на разбудову і каталягізацыю навуковай і беларускай калекцыяў, падрыхтоўваў мноства выставаў, сярод якіх пярлінай стала "450-годзьдзе Беларускага Друку".

У ЗША Вітаўт Кіпель далучыўся да беларускай грамадзкай працы і актыўна наладжваў кантакты з амэрыканскімі палітыкамі. Ён браў удзел у працы некаторых структураў Рэспубліканскай партыі і міжэтнічных арганізацыяў, інфармуючы амэрыканскую грамадзкасьць пра Беларусь і яе стан пад камуністычным панаваньнем, дапамагаючы вывесьці беларускае пытаньне на парадак дня Сэнату і Кангрэсу ЗША. Ён таксама супрацоўнічаў у Нью-Ёркскай філіі беларускай рэдакцыі Радыё Свабода, дзе пераважна насьвятляў беларускае жыцьцё ў ЗША, публікацыі і розныя аспэкты беларусаведы. Шматгадовае сяброўства зьвязвала Вітаўта Кіпеля з Янкам Запруднікам, дырэктарам Нью-Ёркскай філіі Радыё Свабода, выдатным беларускім грамадзкім дзеячам і навукоўцам, што пайшоў з жыцьця сёлета.

Ад самага заснаваньня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (БІНіМ) Вітаўт Кіпель браў удзел у працы гэтай установы, а з 1982 году стаў дырэктарам БІНіМу, пашырыў навуковую і выдавецкую дзейнасьць Інстытуту, спрычыніўся да выхаду амаль усіх кнігаў у ягонай выдавецкай сэрыі, зборнікі твораў Натальлі Арсеньневай, Алеся Салаўя, Міхася Кавыля, Аляксандры Саковіч, Юркі Віцьбіча. Зь ягонай дапамогай быў дапрацаваны і апублікаваны Ангельска-беларускі слоўнік Валянціны Пашкевіч, выйшаў зборнік "Беларуская дзяржаўнасьць" пра часы БНР.

Разам з жонкай Вітаўт Кіпель правёў вялізную справу па выданьні бібліяграфічных даведнікаў, бібліяграфіі "Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе", бібліяграфія па энцыкляпэдыях і слоўніках, "Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе", была завершаная і выдадзеная праца Вітаўта Тумаша "Пяць стагодзьдзяў Скарыніяны". Рэгулярна выдаваліся "Запісы БІНіМ".

В. Кіпель актыўна выступаў як грамадзка-палітычны публіцыст як на беларускай, так і на ангельскай мовах. Шмат артыкулаў пра беларусаў у Амэрыцы Кіпель зьмяшчаў у квартальніку *The Heritage Review*, які ў 1970-х гадох выходзіў у штаце Нью-Джэрзі. Вітаўт Кіпель браў удзел у дзейнасьці шматлікіх беларускіх арганізацыяў, такіх як БАЗА, Згуртаваньне Беларускай Моладзі ў Амэрыцы, Беларускі Кангрэсовы Камітэт, беларускія парафіі БАПЦ,

***заканчэньне на бачыне 4***

# Жэрдкі ў плоце

Калі нехта ўзяўся будаваць краіну, то ня можа мысьліць стандартна і прадбачліва. “У Беларусі няма гор, былі б горы, былі б беларусы іншыя…” Ну так, Сьвятая гара ня самая высокая ў рэгіёне. Але гэта, як паглядзець. Ці задаваўся хто пытаньнем, на якой вышыні знаходзіцца сталіца вашай краіны. Дык вось сталіца Балівіі – Ла-Пас, сьцяг горада амаль такі ж як у цяперашняй Беларусі, разьмешчаная найвышэй у сьвеце – на вышыні 3640 мэтраў. Гэта як кожны дзень прачынацца на паўдарозе паміж Рысамі (у Татрах) і Манбланам. Дзе нам, нашаму Менску да таго Ла-Пасу? Яму і да сталіцаў Эўропы далёка… Але ці так сапраўды?

Менск знаходзіцца на вышыні 198! мэтраў над узроўнем мора. Заўважыць гэта можна няўзброеным вокам, едучы з Паазер’я ў сталіцу, праз Лагойшчыну. Але ж гэта няшмат, пасьпяшаюцца сказаць недаверкі. Ну што ж, глянем, якія сталіцы ніжэй за Менск. Вена са сваімі Альпамі – 170 мэтраў, Кіеў – 168, Афіны – 153, Браціслава са сваімі Татрамі – 131, Масква і Вільня – 124, Варшава – 93, Брусэль як тое балота – 73, Бэрлін – 34 (па-палабску “балота”), Лісабон (дзе паў краіны ў гарах) – 15, Рыга – 8, Вашынгтон – 2, Амстэрдам пад зямлёй – мінус 2, Баку сусветны лідэр – мінус 28. Калі сусьветны патоп накрые паўсьвету, то Менск застанецца. А вы ўсё: “Няма гор, няма гор”.

**Віталь ВОРАНАЎ**




# Вітаўт Кіпель

***заканчэньне з бачыны 3***

зрабіў шмат дакладаў і выступаў, напісаў сотні мэмарандумаў і артыкулаў.

Асобнай галіной дзейнасьці Вітаўта Кіпеля стала падрыхтоўка гісторыі беларускай грамады ў Амэрыцы. Першыя артыкулы былі падрыхтаваныя ў рамках дзейнасьці Этнічнай Рады пры губэрнатары Нью-Джэрзі і на падставе скрыптаў для Радыё Свабода. Затым быў удзел у працы “Этнічны Досьвед Нью-Джэрзі” і “Беларускія амэрыканцы ды іхныя грамады у Кліўлэндзе”.

У 1991 годзе Вітаўт Кіпель разам з Зорай пасьля доўгага расстаньня наведаў родны свой горад Менск, узяўшы ўдзел у Першым кангрэсе беларусістаў і навязаў шмат кантактаў з рознымі беларускімі культурніцкімі арганізацыяі й дзеячамі. Пазьней Кіпелі яшчэ некалькі разоў наведвалі Бацькаўшчыну. Калі Беларусь атрымала незалежнасьць, у Менску выйшла кніга Вітаўта Кіпеля “Беларусы з ЗША”, а праз некалькі год перапрацаванае выданьне выйшла па-ангельску ў ЗША.

Вітаўт Кіпель быў у шчыльным кантакце з прадстаўніком Беларусі ў ААН і паэтам Генадзем Бураўкіным і міністрам замежных справаў Беларусі Пятром Краўчанкам, калі ствараліся першыя прадстаўніцтвы незалежнай Беларусі за мяжой. В. Кіпель працягваў удзел у працы ў Рэспубліканскай партыі, прыцягваючы ўвагу да пагаршэньня сытуацыі ў Беларусі з прыходам Лукашэнкі і аднаўленьні шавіністычнай палітыкі Расеі.

Працягвалася праца па гісторыі беларусаў у Амэрыцы, і ў 2017 годзе выйшла другое выданьне кнігі “Беларусы ў ЗША”, а ўсяго праз два гады – і трэцяе. Працаздольнасьці й энэргіі Вітаўта Кіпеля можна было толькі пазайздросьціць, але гады і час узялі сваё. Вітаўт Кіпель памёр пасьля непрацяглай хваробы 3-га сьнежня 2022 году і пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансўіку.

Дзеці Вітаўта і Зоры Кіпеляў Юрка Алеся Кіпель, таксама зьяўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі грамадзкага жыцьця беларусаў у ЗША і працягваюць справу бацькоў.

Памяць пра Вітаўта Кіпеля захаваецца ў яго ных кнігах і ў сэрцах усіх, хто ведаў яго і працаваў зь ім.

**Віталь ЗАЙКА**

## Уплаты ў Згуртаваньне
**Складкі й ахвяраваньні:**

**А. Сярко . . . . . . . . . . . . . . . . . .60**

**Шчыры дзякуй!**

## Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”**
***Viktar Yedzinovich.***

# Абвестка

Сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

-------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоняй”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:*
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

## Ахвяравалі на выданьне бюлетэня ***Весткі й Паведамленьні*** :

**Н. Кудасава . . . . . . . . . . . . . . .50**
**Я. Кацярыніч . . . . . . . . . . . . .20**

**Усім шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*